# КРЫВІНКА

СТУДЗЕНЬ
№ 1 (209)
2018 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




НАША ЖЫЦЦЁ

## НАДЗЁННЫЯ ПЫТАННІ

**6-га студзеня з 9-00 да 12-00 праходзіла традыцыйная наўпроставая лінія з кіраўніцтвам Бешанковіцкага раёна. На сувязі знаходзіўся намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Заблоцкі. Ён адказаў на некаторыя хвалюючыя пытанні.**

1. Ці плануецца ў Бешанковіцкім раёне адкрыццё магазінаў сеткі Еўраопт ці падобных? Які прагноз, што адзін з магазінаў адчыняць у найбліжэйшы час?

— Пытанне адкрыцця разглядаецца, прагноз аптымістычны.

2. Сёння ў нашым раёне паўсюль жахлівы стан жвіровых (гравійных) дарог. Нельга праехаць з Бачэйкава на Сокарава, з Двор Нізгалава на Шапчына. Жахлівы стан дарог у Сініцкай зоне. Ці ёсць у РВК план, як выходзіць з гэтай сітуацыі?

— На сённяшні дзень у раёне ёсць грошы толькі на бягучае ўтрыманне дарог. Капітальны рамонт жвіровых дарог не плануецца нідзе. Калі крыху падмарозіць, пачнуць рабіць прафіляванне і падсыпку. Праблема яшчэ і ў тым, што ў раёне няма свайго пясчанага кар'ера. Былы кар'ер у Варахобках зачынены, пясок завозіцца з аднаго з кар'ераў Сенненскага раёна.

3. Калі пачнецца запланаваны на 2017 год капітальны рамонт вуліцы імя Чарняхоўскага, і чаму яго не зрабілі дагэтуль?

— Рамонт не зрабілі таму, што была забраная частка грошай, выдзеленых на рамонт. Зараз грошы вернутыя, як толькі наступіць спрыяльнае надвор'е, рамонт распачнецца.

4. За апошнія гады ў раёне былў зачынены шэраг сельскіх школаў: Пяцігарская, Паўазерская, Сініцкая, Свячанская, Рубежская, Пліская... Усе яны былі з беларускай мовай навучання. Ці плануецца адну з райцэнтраўскіх школаў зрабіць бларускамоўнай?

— Плануецца. Прапрацоўваецца пытанне па СШ № 1. Але праца вядзецца пакуль што на стадыі вывучэння пытання.

**Г.Станкевіч**

*Партал твайго горада: http://beshankovichy.by*

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

## ЦІ ГЭТА ВЫБАРЫ ЦІ ІМІТАЦЫЯ?

**Падаецца, што выбары 18-га лютага 2018 года ў Бешанковічах будуць толькі на паперы.**

Па сутнасці яны адбудуцца толькі па дзвюх акругах з 25, дзе могуць быць альтэрнатыўныя кандыдаты. А па 23 акругах будзе балатавацца адзін вылучэнец. Прычым па 20 акругах будуць балатавацца той жа кандыдат, што і на папярэдніх выбарах.

Толькі на двух участках намячаецца канкурэнцыя. На Школьным выбарчым участку №5 дакументы на рэгістрацыю падалі Левачоў Ягор, 1993 г.н., настаўнік ДУА "Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўляльны цэнтр "Зубронак" і Ерашоў Аляксандр, 1983 г.н., намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Бешанковіцкага РВК.

На Моладзевым выбарчым участку №6 дакументы на рэгістрацыю падалі Качан Алена, 1972 г.н., прадавачка таварыства з абмежаванай адказнасцю "Вітконпрадукт" і Ткачонак Аляксандр, 1971 г.н., начальнік фінансавага аддзела Бешанковіцкага РВК.

Сёлета ў раёне колькасць выбарчых акругаў скарацілася з 35 да 25. На 5 акругаў паменела ў райцэнтры. Зніклі Крупенінская, Паліцкая, Дапанаўская, Стрыжаўская, Нізгалаўская выбарчыя акругі. Адпаведна спатрэбіцца і менш дэпутатаў.

Кандыдатамі ў дэпутаты раённага Савета дэпутатаў 28-га склікання на 25 мандатаў вылучаецца 27 чалавек. Ні механізатараў, ні даярак сярод іх няма. Затое сярод іх ёсць 20 дэпутатаў 27-га склікання. Гэта Апанасёнак Наталля, Карпушэнка Ніна, Грыгаровіч Любоў, Салоха Святлана, Ерашоў Аляксандр, Карбоўская Алена, Людына Анжэла, Невельская Вольга, Ткачонак Аляксандр, Кухто Уладзімір, Серабро Мікалай, Гушча Аркадзь, Равуцкі Сяргей, Ждановіч Таццяна, Усцюгава Галіна, Слівец Ігар, Карпук Іван, Кавалёнак Міхаіл, Шведаў Генадзь, Пашкевіч Аляксандр.

Сярод новых вылучэнцаў у дэпутаты Галец Віталь, 1974 г.н., начальнік Бешанковіцкага раённага аддзела МНС, Ганковіч Андрэй, 1967 г.н., старшыня Астровенскага сельскага Савета дэпутатаў, Кавалёнак Віктар, 1984 г.н., начальнік Бешанковіцкага раёна газазабеспячэння, Камовіч Аляксандр 1971 г.н., дырэктар сельгаспрадпрыемства "ПалітаддзелецАгра", Жукоўская Таццяна, 1983 г.н., першы сакратар Бешанковіцкага РК БРСМ.

Кандыдатамі ў дэпутаты абласнога Савета дэпутатаў 28-га склікання па Бешанковіцкай выбарчай акрузе №1 вылучаюцца Ерашоў Аляксандр, 1983 г.н., намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Бешанковіцкага РВК і Берасцень Андрэй, 1970 г.н., дырэктар прыватнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства "АльфаБудМаркет", сябра ліберальна-дэмакратычнай партыі, г.Віцебск.

**А.Тутэйшы**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## ДАРОГА ДА ВЁСКІ ДУБРАЎКА

**«На сённяшні дзень у раёне ёсць грошы толькі на бягучае ўтрыманне дарог. Капітальны рамонт жвіровых дарог не плануецца нідзе.» Менавіта пасля гэтых слоў намесніка старшыні Бешанковіцкага райвыканкама мне закарцела дабрацца да вёскі Дубраўка, якая знаходзіцца ўсяго за 2 км ад аўтадарогі Мінск — Віцебск. Сёлета ў Дубраўцы яшчэ зімуе некалькі сем'яў.**

Падарожжа распачалося ў святочны дзень 7-га студзеня ад моста праз Крывінку, шлюз праз якую, дарэчы, ужо другую зіму застаецца апушчаным. Сёлета рэчка паўнаводная, як ніколі. А таму верагоднасць таго, што пры паводку мост можа быць знесены, вялікая. На самім мосце стаіць вялізная лужына, якая пакуль не перашкаджае праязджаць праз мост нават легкавікам.

Дарога ад моста да лесу знаходзіцца ў больш-менш добрым стане. Да былога Ранчыцкага сметніка можна дабрацца і на легкавіку. Сам сметнік парос мятровым быльнягом. Сюды зрэдзьчас усё яшчэ прывозяць смецце і разгружаюць у прыдарожную канаву.

Аксіёма: чым далей ад цывілізацыі вядзе дарога, тым горшай яна становіцца. Роўна на паўдарозе да Дубраўкі кіроўцу легкавой машыны варта задумацца, ці не пара павярнуць назад. Бо спачатку на дарозе з'яўляецца каляя. Пакрысе на дарозе праяўляюцца лужыны. Яны пакуль што не надта глыбокія, але ж усяму свой час.

Потым на дарозе з'яўляецца лужына, яка займае ўжо палову дарогі. Яе можна абысці краем дарогі па сухому. Праўда, ужо наступную лужыну без падрыхтоўкі не фарсіруеш, бо яна займае ўсё дарожнае палатно.

Вось-вось на даляглядзе з'явіцца Дубраўка. Перад вёскаю справа ўсплывае някошаная ніва. Такіх участкаў наўкол вёскі набярэцца гектараў на 20 - 30. Раней, у савецкія часы, яны араліся.

Перад самай вёскай па слядах можна ўбачыць месца, дзе разварочвалася аўталаўка. Разварочвалася ўвосень і напачатку зімы. Увесну яна ўжо не пройдзе, і дубраўчанам прыйдзецца выходзіць да яе за 1,5 км, як яны тое рабілі ў мінулыя гады.

Наша падарожжа заканчваецца. Пачынаецца вёска Дубраўка. Праўда, дарогі праз вёску няма, ды яе ніколі і не было. Бо тут заўсёды жылі тыя, хто забяспечваў раён хлебам, малаком і мясам. А навошта ім дарога? Дый бальшыня тых людзцаў даўно перасялілася на мясцовыя могілкі.

Я не лічу, што для рамонту дарогі на Дубраўку трэба вазіць пясок з Сенненскага раёна. Для гэтага яго можна ўзяць з самой дарогі, дзе яна сягае шырыні 6 -8 метраў, адразу за мостам праз Крывінку. Запасу жвіру тут хопіць, каб адрамантаваць цэлы кіламетр дарогі, а мо і больш. Але ж у Дубраўцы не жывуць ні высокія начальнікі, ні іхнія родзічы. Хто ж паклапоціцца пра дубраўчан?

Урэшце, пра іх можна не клапаціцца. Яны не прывыклі да такой увагі да сябе. Ды і сама вёска праз некалькі гадоў знікне, як зніклі і знікаюць штогод дзесяткі і сотні вёсак у сённяшняй Беларусі.

**М.Васільеў**

### ****

*Ў прыдарожнай карчме*
*ў час паўночны згушчаюцца цені,*
*і іртутна блішчыць пад вакном*
*загусьцелая гразь.*
*Змружыш вочы – адразу плывеш*
*у свае летуценні,*
*выпадкова расплюшчыш –*
*сядзіць насупроць з мечам князь.*

*На даспехах гарыць свечак бляск –*
*князь прыехаў ня зь веча.*
*З панадворку галас –*
*начлягуецца воінаў раць.*
*"Ты скуль будзеш,*
*з далёкай якой стараны, чалавеча?"*
*"Бешанковіцкі, княжа.*
*Мо Вам чымсьці паслугаваць?"*

*"Паслугач не патрэбны. Хаця…*
*Бешанковіцкі, кажаш?*
*Зможаш ты маім воям*
*брады паказаць праз Дзвіну?"*
*Не адразу да думкі дапаў:*
*"Як жа, здолею, княжа.*
*Тут радзіма мая."*
*І зьляцелі зь мяне рэшткі сну.*

*"Плата будзе дастойнай," –*
*маўчаньне забіў суразмоўца.*
*"Княжа мой, з нараджэньня свайго*
*я ня быў срэбралюб."*
*У вачах заіскрылася ўсмешка,*
*мы крочылі моўчкі.*
*Месяцовая ноч*
*серабром калыхала зямлю.*

*Пошчак неба будзіў,*
*і Дзьвіны дзіваваліся хвалі,*
*калі шыхт за шыхтом*
*разразаў хуткакрылую плынь.*
*У празрыстай смузе*
*пры рацэ хмызьнякі патаналі,*
*і трымала нябёсы*
*на дзідах лясоў далячынь.*

*І на беразе дзьвінскім,*
*дзе вечнасьцю мроіць сьвітаньне,*
*дзе штораньне на кожным паркане*
*вісяць туманы,*
*князь каня запыніў*
*і руку падаў на адвітаньне:*
*"Калі трэба – прымчуся,*
*твае патурбую зноў сны."*

*Статны, скроены моцна.*
*Зь ягоных аброшаных латаў*
*усьміхалася сонца –*
*Браты яны будуць няўжо!?*
*"Будзе цяжка – прыходзь,"–*
*з закранутых ялінавых лапак,*
*нібы сьлёзы з нябёсаў,*
*раса абляцела даждж[о]м.*

*Час імкне, як страла.*
*Сёньня ў Краі маім вецер сьвішча,*
*шэры дзень правіць баль,*
*і зямля хоча ўся паміраць.*
*Конча трэба ісьці клікаць князя*
*на дзьвінскае ўзвышша.*
*Ён прымчыцца, ён слова*
*ня можа свайго не стрымаць.*

**Г.Станкевіч**

УСПАМІНЫ

# ЗА РАШУЧЫ ХАРАКТАР – НАЗЫВАЮЦЬ ГЕНЕРАЛАМ

**Зінаідзе Ягораўне Краско зараз 92 гады, а вайну яна ўбачыла на свае вочы 16-гадовай школьніцай.**

У далёкім 41-м дзяўчына толькі што скончыла школу з адзнакай. У вёсцы Промыслы, што ў Бешанковіцкім раёне Віцебскай вобласці чакалі цёплага лета.

«Мы не ведалі і словы такога - вайна. Выйшлі на вуліцу, а там самалёты ляцяць, нізка-нізка. Ніякага страху, беглі па двары і глядзелі ў неба, нам, дзецям, было цікава ».

Пазней, распавядае Зінаіда Ягораўна, у вёску прыйшлі немцы. Іх было шмат, па дарозе рухалася цэлая матацыклетная калона.

«Наш тата разам з суседам будавалі сховішча побач з домам, праз дарогу, Дзеці, не разумеючы, што адбываецца, дапамагалі, як маглі. У нашых суседзяў была маленькая дачка - Сонечка. Ёй было каля 2 гадоў, і яна ўжо бойка называла ўсіх па імёнах. Калі праязджала нямецкая калона, Соня перабягала дарогу. Вадзіцель не паспеў спыніцца, і малая патрапіла пад яго колы. Яна яшчэ дыхала, калі немцы спрабавалі яе выратаваць, нават ўколы нейкія рабілі, але сэрца Соні спынілася».

Гэта была першая сустрэча са смерцю, падзялілася Зінаіда Ягораўна, і, як аказалася, не апошняя.

Вайна забрала ў жанчыны родную сястру Веру і брата Васю.

«Мы хавалі самых родных з розніцай у тыдзень. Спачатку загінуў брат, яго застрэлілі, а пазней на замініраванным поле выбухнула Верачка. Сястра ўмела трохі гадаць на картах і пасля смерці Васі, раскінуўшы калоду, ціха шапнула маме: «Яшчэ адна труна ў нас будзе». Толькі не ўбачыла, што гэта ёй заставалася жыць ўсяго некалькі дзён».

Вера, успамінае Зінаіда Ягораўна, цаной свайго жыцця выратавала ўсю вёску. У той дзень партызаны замініравалі поле, па якім павінны былі ехаць немцы, а дзяўчынка прайшла па мінах раней.

«Калі б ўзарваліся немцы, нікога б у вёсцы не пашкадавалі. Так спальвалі шмат пасёлкаў. Верачкі няма, але нашы Промыслы адстаялі ўсю вайну».

У 1944 годзе Зінаіда Ягораўна трапіла ў нямецкі працоўны лагер Равенсбрук. Усю моладзь яе ўзросту сабралі ў раённым цэнтры і, пагрузіўшы ў машыны, павезлі на паўночны ўсход Нямеччыны.

«Ніхто не ведаў, вернемся мы ці не. Мама ўмольвала мяне пакінуць, так крычала, што страціла голас, які пасля вайны не аднавіўся. Бацька казаў, каб пры любой магчымасці бегла, але было страшна гэта рабіць. Мы ўсе ехалі, як мышы. Калі з'яжджала, мама дала мне падушачку з сабой. Пакуль ехалі ў Нямеччыну, дзеці прасілі па чарзе паляжаць на ёй. Падушачка была кавалачкам дома».

Праз два гады Зінаідзе Ягораўне ўдалося вярнуцца ў родную вёску. Яна выйшла замуж і выхавала чацвярых дзяцей. Цяпер, у свае 92 гады, жанчына працягвае весці актыўны лад жыцця. Кажа, што абавязкова робіць зарадку па раніцах і шмат чытае, і гэта дапамагае не адставаць ад сучаснага рытму жыцця. За рашучы характар у сям'і яе называюць генералам. Але генералы таксама плачуць ... Успаміны пра вайну нікому не даюцца лёгка.

**Дар'я Максіменка**
**"Віцебскі кур'ер"**

ЗДАРЭННІ

# ЖЫХАРКА ЎЗЯЛА КРЭДЫТ У «АДНАКЛАСНІКАХ»

**Да 40-гадовай жыхаркі Бешанковічаў у «Аднакласніках» набівалася ў сябры нейкая група, зарэгістраваная ў Расіі. Дама прыняла прапанову. Тым больш што новыя сябры раздавалі грошы направа і налева, прапаноўваючы выгадныя анлайн-крэдыты.**

Канкрэтна ёй самой яны паабяцалі выдаць на прывабных умовах 5 тысяч беларускіх рублёў. Фінансы нашай гераіні былі вельмі нават патрэбныя, а таму яна кінулася выконваць умовы «добразычліўцаў». Падрабязнасцямі аб тым, як далей развіваліся падзеі, падзяліўся пракурор Бешанковіцкага раёна Андрэй Старчанка:

- Спачатку невядомыя папрасілі выслаць ім 150 рублёў для выплаты пошліны. Потым спатрэбілася страхоўка. Агулам жыхарка Бешанковічаў за кароткі тэрмін пералічыла махлярам на расійскую банкаўскую картку 500 рублёў. Жанчына выхоўвае двух дзяцей, лішніх сродкаў не мае. А таму акрамя заработнай платы яна выкарыстала для перакладаў грошы сваякоў, сяброў і знаёмых, узятых ў доўг. Калі зразумела, што абяцанага крэдыту не дачакаецца, то звярнулася ў міліцыю.

У цяперашні час вырашаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы. Але шанцы на тое, што асобы замежных злачынцаў будуць устаноўлены, невялікія. Ашуканцы хутка замялі свае сляды - спачатку ўнеслі пацярпелую ў «чорны спіс», а потым і зусім выдалілі сваю старонку ў інтэрнэце. Сапраўды даверлівасць асобных грамадзян бязмежная. Зразумела, калі на хітрыкі віртуальных «акул» трапляюць людзі сталага ўзросту, не знаёмыя з хітрасцю інтэрнэт-тэхналогій. Але ж трапляе і цалкам прагрэсіўнае пакаленне сярэдніх гадоў, якое дзякуючы шматлікім папярэджанням у СМІ добра знаёма з асновамі камп'ютэрных афёр. Дарэчы, наша нешчаслівая атрымальніца крэдыта працуе ў сістэме адукацыі ...

**Алена Бегунова**
**"СБ"**

ЦІКАВЫ ЧАЛАВЕК

# МЫ ЖЫВЁМ У НАДЗВЫЧАЙНЫ ЧАС!

**На пераднавагодня пытанні адказвае вядомы беларускі кінарэжысёр Юрый Хашчавацкі.**

***- Вы можаце назваць самы яркі і памятны Новы год у сваім жыцці? Чаму менавіта ён стаў такім?***

- Цяжка, вядома, абраць. Жыццё вялікае: я нарадзіўся ў 1947 годзе. Але мне здаецца, што самы надзвычайны Новы год быў у 1991-м. Тады было рэальнае пачуццё, што ўсё павінна пачацца наноў. Гэты смак надзеі на пачатак новага жыцця, мабыць, ні з чым не параўнаць.

Новае жыццё тады яшчэ не пачалося, але мы ўжо адчулі новы віток гісторыі, калі развалўся СССР, калі мы адчулі, што такое свабода. Усё перакулілася ў добрым сэнсе. Паўстала небывалае адчуванне свабоды, адкрыліся павабныя перспектывы, новыя інструменты і магчымасці для самавыяўлення.

У кіно пачалі ўзнікаць свабодныя студыі - такія, як студыя Ігара Дабралюбава ў Беларусі. З'явілася магчымасць працаваць, дзе хочаш. Я нарэшце перастаў быць прывязаным да аднаго месца і здымаў фільмы ў Менску, Кіеве, Маскве. І той Новы год, мабыць, быў самым памятным, а сам год - самым цікавым і шчаслівым.

***- А які навагодні тост вам запомніўся больш за ўсё?***

- Каб тое, пра што мы марым сёння, адбылося ў новым годзе. Гэта - самы важны тост. Акрамя падзякі і пажаданняў сваёй сям'і, для чалавека вельмі важна ўмець верыць у тое, што яго мары і жаданні можна ажыццявіць.

***-Як творчы чалавек - у чым вы знаходзіце натхненне? І ў чым параіце знаходзіць яго беларусам?***

- Натхненне - гэта вельмі цяжкае пытанне. У кожнага яно з'яўляецца па-рознаму. Па-мойму, галоўнае - гэта адчуванне свайго прызначэння: што ты павінен і можаш паспець зрабіць па жыцці.

Важна яшчэ адчуваць нешта такое, што я б назваў «унутраным сумленнем». Калі жывеш па сумленні - пачынае нараджацца натхненне. Гэта ўмова. А крыніца натхнення - гэта само жыццё ва ўсіх яго праявах, радасцях і смутках. Усё роўна ж радасці застаюцца з намі, а смуткі сыходзяць і праз нейкі час разумееш, што яны былі дадзены табе як радасць: для таго, каб здолець іх пераадолець, выжыць і стаць мацнейшым. Менавіта жыццё ва ўсіх яго праявах падганяе нас, падбадзёрвае і надае сілы з, здавалася б, ніадкуль.

Скажу нават больш: натхненне дае пераменнасць і цякучасць жыцця. Нейкія выпадкі, нечаканыя сустрэчы, новыя ідэі і думкі. Мяне заўсёды зачароўвае, калі я думаю пра тое, як змяняецца свет вакол. Хутка рэальнасцю стануць палёты да Марса і іншых планет дзякуючы новым тэхналогіям. Яшчэ 20 гадоў таму я не мог уявіць, што змагу, седзячы дома, ствараць фільмы - а цяпер гэта адбываецца вельмі проста.

Мы жывём у надзвычайна зменлівым свеце - і гэта выдатна. Праз пяць гадоў, думаю, ужо не будзе бензінавых і дызельных рухавікоў. А разам з гэтым адбудуцца і кардынальныя геапалітычныя перамены. І гэта таксама - крыніца натхнення!

Нам усім пашанцавала жыць у эпоху, калі фармуецца зусім новае грамадства: людзі, здольныя развівацца ў любых умовах і рухаць навакольны свет да пераменаў. Прычым з каласальнай хуткасцю! І гэта выдатна. Гэта натхняе. Гэта дае надзею, што закасцянелы ў рэаліях мінулага «беларускі парадак» знікне ў адзін дзень, як разваліўся картачны домік.

***- Давайце ўявім, што гэта спраўдзілася: Лукашэнка знік. Вам трэба ўжо сёння, 1-га студзеня, звярнуцца да мільёнаў беларусаў. Што б вы ім сказалі?***

- Разумееце, гэта вельмі важная і адказная сітуацыя. Справа ў тым, што, акрамя ўласна Аляксандра Лукашэнкі, ёсць яшчэ і «калектыўны Рыгоравіч».

Гэта такі непрыкметны «лукашэнка», які схаваны ўнутры нашага грамадства, унутры практычна кожнага грамадзяніна. І калі згіне першы Рыгоравіч, то, нягледзячы на ўсю радасць гэтай падзеі, другі Рыгоравіч нікуды не дзенецца. Гэты «калектыўны Рыгоравіч» стоіцца ўнутры нас.

І я хачу цяпер вывесці яго на чыстую ваду. Ён хаваецца ў такіх думках, як «мая хата з краю», «за мяне вырашаць», «я не займаюся палітыкай», «я перасяджу», «мне б бабла ссекчы». Гэтыя думкі ў розны час і рознай ступені, я ўпэўнены, наведваюць кожнага беларуса. Гэта і ёсць той самы «калектыўны Рыгоравіч», які можа прывесці да таго, што пры магічным, з боем гадзінніка, як у казцы пра карэту і гарбуз, знікненні першага Рыгоравіча, паўстане другі, трэці і гэтак далей.

Кожны з нас павінен ведаць: трэба выціснуць з сябе, выгнаць «калектыўнага Рыгоравіча» - жыццё да лепшага не зменіцца, што ні загадвай над куфлем шаманскага ў навагоднюю поўнач. У гэтым і ёсць простая «магія» навагодняй ночы: жаданні выконваюцца, калі ім адпавядаеш.

Давайце сёння, 1-га студзеня, пагляздім адзін аднаму ў вочы і паабяцаем без страху і ляноты выгнаць з сябе тое, што перашкаджае і нам самім дыхаць на поўныя грудзі, і змяніць усё ў краіне.

Давайце падтрымаем адзін аднаго ў гэтым, навучымся супрацоўнічаць і працаваць разам па нашым ачышчэнні - ва ўсіх сэнсах. Гэта вельмі важна - падтрымліваць адзін аднаго і не замыкацца ў сабе. Таму што, і гэта праверана, як толькі замкнешся ў сабе - табой адразу пачынае кіраваць той самы «калектыўны Рыгоравіч», з якім, як здавалася, ты ўжо справіўся. Выскоквае, як чорцік з табакеркі...

Мы мацнейшыя за гэтага «чорціка» толькі тады, калі не падзеленыя і не думаем толькі пра самае малое.

Вось пра гэта я б і казаў 1 студзеня мільёнам беларусаў.

**"Хартыя-97"**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АДЗІНЫ ПАЛІТЫК

# ПОЙДЕТ ЛИ ЛУКАШЕНКО НА ПЕРЕСТРОЙКУ?

**Постиндустриальная экономика требует и нового человека, провоцирует изменения в политике, и это главный вызов для нынешней белорусской системы…**




С 2018 годом Александр Лукашенко поздравил белорусов в несколько необычной для себя стилистике. Если в прежние годы президент твердил прежде всего о стабильности и достижениях белорусской модели, то на этот раз подчеркнул, что «главное отличие нашего времени — его стремительный бег. Идти шагом сегодня равносильно остановке, стоять — это отступать назад». Более того, глава государства обратился в первую очередь к молодежи: «…Дерзайте, творите! Для вас открыты все двери!.. За вами будущее страны!»

**Подул ветер перемен?**

Для сравнения: годом ранее, на рубеже 2017-го, молодежь в президентском обращении была лишь на третьем месте — после женщин (которых Лукашенко призвал рожать) и старшего поколения. И вообще тогда акцент был на том, что «сохранить Беларусь островком стабильности и спокойствия было непросто. Но мы это сделали».

Однако в конце прошлого года риторика официального лидера стала принципиально иной. Он раз за разом подчеркивал, что не хочет выглядеть ретроградом.

Но главное — не риторика. Лукашенко подписал ряд документов, призванных дать простор бизнесу и строительству IT-страны. Да, документы половинчатые, но предпринимательское лобби их приветствует, а уж иные бизнесмены-айтишники и вовсе до потолка прыгают.

Так что, и у нас подул ветер перемен? Способен ли бессменный белорусский президент, много лет козырявший своим консерватизмом, затеять нечто вроде перестройки а-ля Горбачев?

**Постиндустриальный вызов для авторитарной системы**

Перестройка у нас уже идет, но «очень интересно, по-белорусски», считает политолог Сергей Николюк. «Государственный сектор — эти 70% — как жил, так и живет, все объявленные перемены его не касаются. Но вместе с тем государство вынуждено вводить новые принципы (даже элементы английского права) для тех областей, которые не может само развивать, — это и Парк высоких технологий, и сотовая связь, и отдельные направления в финансовой сфере… Условие: только не вмешивайтесь в политику», — пояснил Николюк в комментарии для Naviny.by.

Он добавил: речь идет не только о высоких технологиях и программистах, параллельно отпускают на вольные хлеба часть «обычного» населения, особенно в регионах, где сильна безработица, — «занимайтесь ремеслом, пеките булочки и так далее (но если отравите людей — ответите)».

Мы, как и весь мир, движемся в сторону постиндустриальной экономики, однако ей требуется человек иного типа, с иными ценностями — человек, ориентированный на саморазвитие. Опыт Южной Кореи, Тайваня и ряда других стран показывает, что с переходом от индустриального общества к постиндустриальному возникает и потребность перехода от авторитаризма к демократии. И в этом кроется главный вызов для Лукашенко, считает Николюк…

**Заложники «элегантных побед»**

У Лукашенко к Михаилу Горбачеву сложное отношение. С одной стороны, белорусский президент козырял тем, что в бытность прогрессивным директором совхоза попал, мол, в фавор к генсеку ЦК КПСС и даже привлекался к разработке реформ.

С другой стороны, Лукашенко не раз заочно корил Горбачева за мягкотелость и развал страны. Из этих тирад следовало, что уж он, Лукашенко, такой мягкотелости не допустит.

И действительно, пока перемены в его исполнении выглядят намного осторожнее, чем в исполнении последнего советского генсека. Тот ведь с самого начала не только призвал к ускорению в экономике, но и объявил политику гласности, дал волю прессе. А затем пошел на гибридные (с использованием административного ресурса, но и с сильным элементом конкуренции) выборы на Съезд народных депутатов СССР.

В Беларуси медиасфера остается под жестким контролем, журналистов «Белсата» перманентно штрафуют, в декабре был заблокирован сайт «Белорусский партизан», келейно готовится новая редакция закона о СМИ, которая, как предполагается, сильнее зажмет интернет, соцсети.

Выборы в местные советы проходят вяло, скучно, по старым правилам. Лукашенко пока не пошел даже на косметические изменения избирательного законодательства, проект которых был разработан группой своих же людей во главе с председателем Центризбиркома Лидией Ермошиной…

**Беларусь останется подмороженной**

Лукашенко тоже опасается майданов, и прошлогодние «дармоедские» протесты эту опаску лишь усилили. В условиях исчерпанности «белорусской модели» невозможно обеспечить приличный рост доходов электората (кажется, до пресловутой тысячи рублей среднего заработка в прошлом году так и не дотянули). Более того, приходится урезать блага социального государства — поднимать коммуналку, стоимость проезда в транспорте, брать с населения все больше денег за медицину и образование.

В итоге пропагандистские мифы рассыпались, имидж «государства для народа» и его лидера потускнел. После разгрома НИСЭПИ в 2016 году мы уже не узнаём каждый квартал электоральный рейтинг президента. Но можно предположить, что закрытые опросы на этот счет его не радуют.

Во всяком случае, поздравляя электорат с 2018 годом, Лукашенко выглядел мрачно.

В общем, параллели с горбачевской перестройкой, частью которой было раскрепощение СМИ, общественной активности, пока не катят.

Вспомним: Горбачев пошел на отмену статьи конституции о руководящей роли КПСС (это как у нас отказаться от указов и декретов президента), а затем нашел в себе силы под занавес 1991 года отказаться от власти, чтобы не проливать кровь. Лукашенко заявлял, что готов защищать свою власть, «если надо — с оружием в руках, если надо — один».

Конечно, он тоже не хочет крови. А потому постарается держать страну в подмороженном состоянии. Так что на политические реформы надеяться не стоит. Да и в экономике преобразования будут половинчатыми, потому что боязно трогать старый базис.

Другое дело, что постиндустриальное общество — это действительно беспрецедентный вызов той системе, которую сконструировал первый белорусский президент с его аграрно-индустриальным мировоззрением советского типа (пятилетки, вал, селекторные совещания и пр.). И уже в нынешнем году мы, возможно, увидим характерные коллизии.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**«Белапан»**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# ВЫБАРЫ ЯК СРОДАК ДАСЯГНЕНЬНЯ ДУШЭЎНАГА КАМФОРТУ

**Сэнс выбараў, паводле Ярмошынай, — гэта забесьпячэньне псыхалягічнага камфорту выбарчых камісій. Легітымнасьць выбарчага працэсу — на другім пляне.**

Пра тое, што ў краіне праходзіць выбарчая кампанія, ведаюць толькі моцна ангажаваныя ў палітыку людзі. Паводле старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзіі Ярмошынай, толькі прыабраньні дэпутатаў Менскага гарадзкога і Магілёўскага абласнога саветаў у кожнай выбарчай акрузе будзе альтэрнатыва. У іншых абласьцях пры выбары абласных саветаў шмат безальтэрнатыўных акругаў. У Гарадзенскай вобласьці такіх больш за палову. А ў саветах ніжэйшага роўню, казала Лідзія Ярмошына, у гэтым сэнсе справы яшчэ горшыя.

Усё менш кандыдатаў вылучае апазыцыя. Напрыклад, паводле падлікаў нашага журналіста Уладзімера Глода, партыя «Справядлівы сьвет» сёлета вылучыла 72 кандыдаты, у той час як на мінулых мясцовых выбарах у 2014 годзе — 119. Адпаведна, АГП — 78 і 110, Партыя БНФ — 15 і 35 чалавек.

Улады так доўга змагаліся з выбарамі, што нарэшце дасягнулі мэты. Мясцовыя выбары не цікавыя ні ўладзе, ні апазыцыі, ні грамадзтву. Але ўлады загадзя падрыхтаваліся да такога фіналу, яшчэ раней унёсшы зьмены ў выбарчае заканадаўства.

Ня ўсе, мусіць, ведаюць, што з 2013 году дзейнічае норма, паводле якой мясцовыя выбары праходзяць па мажарытарнай сыстэме аднаснай большасьці. Гэта значыць, толькі ў адзін тур — другі тур не прадугледжаны. Прычым парогу яўкі няма. Калі б выбарцаў ні прыйшло на выбарчыя ўчасткі — лічыцца, што выбары адбыліся.

Ажыцьцявілася мара палітычнага кіраўніцтва: выбары можна праводзіць і бяз выбаршчыкаў

Цяпер ня трэба нацягваць яўку, гнаць людзей на датэрміновае галасаваньне, хадзіць па кватэрах са скрынямі. Ажыцьцявілася мара палітычнага кіраўніцтва: выбары можна праводзіць і бяз выбаршчыкаў, дакладней — зь іх мінімальнай колькасьцю. То бок калі з 1000 выбаршчыкаў у акрузе на ўчастку прыйдзе 10 чалавек, зь іх 3 прагаласуе за кандыдата А, а астатнія кандыдаты атрымаюць па 2 галасы, то пераможцам будзе абвешчаны А. Ад выбарчых камісій ня трэба вялікіх намаганьняў, каб атрымаць патрэбны вынік, іх работа моцна спрашчаецца.

Па звыклым сцэнары прайшло фармаваньне выбарчых камісій. Толькі адзінкі апазыцыянэраў трапілі ў іх. Прычым Лідзія Ярмошына вылучыла наконт гэтага дзіўную аргумэнтацыю. Здавалася б, беларускія выбары ўжо нічым ня могуць зьдзівіць. Аднак не. У інтэрвію часопісу Адміністрацыі прэзыдэнта «Беларуская думка» старшыня Цэнтравыбаркаму патлумачыла згаданую праблему так:

«Што тычыцца неўключэньня ў склады камісій прадстаўнікоў апазыцыі... Пры фармаваньні выбарчых камісій ацэньваецца ў першую чаргу здольнасьць прэтэндэнта працаваць у калектыве. Бо выбарчая камісія — калектыў, дзе выпінаньне сваёй палітычнай пазыцыі шкодзіць агульнай справе. Думаю, менавіта гэтая акалічнасьць улічвалася пры ўключэньні прадстаўнікоў апазыцыйных структур у выбарчыя камісіі».

Як мне падаецца, тут усё пастаўлена з ног на галаву. Дзеля чаго праводзяцца выбары? Ва ўсіх краінах сьвету — дзеля таго, каб забясьпечыць легітымнасьць уладаў. Самі выбаркамы — гэта сродак дасягненьня гэтай мэты. Прысутнасьць апазыцыі ў выбарчых камісіях — дадатковы фактар легітымізацыі.

А ў Беларусі ўсё наадварот. Сэнс выбараў, паводле Ярмошынай, — гэта забесьпячэньне псыхалягічнага камфорту выбарчых камісій. Легітымнасьць выбарчага працэсу — на другім пляне. Сродак ператвараецца ў самамэту. Дзеля таго, каб выбарчым камісіям было камфортна, ахвяруюць легітымнасьцю і самім выбараў, і створаных у выніку іх органаў улады — мясцовых саветаў.

Калі кіравацца такой лёгікай, то можна ісьці далей. Трэба правесьці выбары дзеля таго, каб забясьпечыць душэўны камфорт самой Лідзіі Міхайлаўны. Што для гэтага трэба рабіць? Каб апазыцыя сядзела ў бульбе і не высоўвалася? Ці каб не крытыкавала старшыню Цэнтравыбаркаму? У любым выпадку гэта новае слова ў беларускіх выбарчых тэхналёгіях.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ТАКАЯ ПРАПАГАНДА

# «З 1991 ГОДА НАША КРАІНА АКУПАВАНАЯ»

**У інтэрнэт трапіла шакуючае ВІДЭА семінара для беларускіх ідэолагаў. Лектар расказвае пра масонаў і пра тое, што здараецца з дзяўчатамі, якія агаляюць жывот. А таксама адпраўляе на сайт пра «глабальны надыўдзейскі прэдыктар».**

Увагу «Нашай Нівы» прыцягнуў выкладчык Інстытута бізнэсу Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Андрэй Іваноў — улетку ён атрымаў ухвальную грамату ад «міністра моладзі ДНР».

Калі мы шчыльней зацікавіліся гэтым чалавекам, то выявілі, што ў БДУ ён не працуе ад верасня 2017 года: па словах жонкі, перайшоў на работу ў дзяржаўнае таварыства «Веды», якое мае задачай «удзел у ідэалагічнай рабоце дзяржаўных органаў».

З самім Івановым мы звязацца не змаглі, але ягоная жонка сказала, што муж цяпер чытае лекцыі па ідэалогіі для работнікаў райвыканкамаў і аблвыканкамаў.

Што за лекцыі можа чытаць беларускім чыноўнікам аматар «ДНР»? Пабачыць тыповы ўзор такой лекцыі для гарадскіх ідэалагічных работнікаў прадпрыемстваў, установаў адукацыі і сілавых органаў можна на Ютубе. Справа адбывалася ў Нясвіжы ў 2015 годзе, але, мяркуючы па запісах Іванова ў сацыяльных сетках, яго погляды з таго часу не змяніліся.

Пачынаецца семінар для ідэолагаў з заявы, што сёння Беларусь жыве ва ўмовах вайны, «якая яшчэ больш выродлівая, чым тая, калі фашысты палілі вёскі». Дык хто ж з кім вае? Спікер спачатку сыпле безасабовымі дзеясловамі накшталт «генацыд ажыццяўляецца», «кантроль праводзіцца», але ўрэшце зрывае маскі, называючы ворагаў — гэта ЗША, Брытанія, іншыя краіны Еўропы. У пацвярджэнне Іваноў перакладае надпіс на даляравай купюры з латыні: «Сусветны парадак назаўсёды». «Яны спрабуюць утрымаць гэты парадак, але не могуць! Не ведаюць, што рабіць: Ісламскую дзяржаву стварылі, наркатрафік з Афганістана пусцілі праз нашую тэрыторыю, у Еўропе пастановачныя тэракты, на Данбасе вайну запусцілі. А не атрымліваецца», — адзначае ён.

“Мы заўсёды былі разам — вялікая краіна, потым нас падзялілі і спрабуюць даказаць, што кожны сам за сябе. Нас так перадзяўбуць, як арэшкі. Таму сёння пытанне вельмі сур'ёзнае: дзе мы бачым сваю будучыню? Ye мы мусім бачыць у гістарычным мінулым», — вучыць Іваноў ідэолагаў…

Правобраз ідэальнага грамадства і эканомікі, паводле Іванова, быў пабудаваны пры Сталіне. Гэтым яго веданне эканоміке не абмяжоўваецца — ён дэманструе яго ідэолагам на ўзоры з роварамі. «Давайце ўявім сітуацыю, — кажа ён. — У Нясвіжы стаіць камбінат, які не можа выпусціць тую колькасць ровараў, якая патрэбна вам і вашым гасцям — ну не атрымліваецца! Не хапае магутнасці! Што будзем рабіць? А давайце надрукуем беларускіх рублёў — я вам прапаную — на іх купім цэмент у нас жа, у Касцюковічах! У нас ёсць рабочыя рукі, ёсць зямля пад Нясвіжам. І пабудуем новае прадпрыемства! На свае ж, надрукаваныя грошы! І выпусцім больш ровараў! Што з цаной адбудзецца? Яна ўпадзе, правільна! А нам эканамісты са ступенямі кажуць: „Нельга грошы друкаваць, толькі ў доўг браць можна“. А гэта залежнасць краіны ад знешняга эмісійнага цэнтра, гэта каланіялізм! Навошта мы гэта робім? Калі гэтыя ісціны ведаюць мае школьнікі, мае студэнты нават! Чаму мы сёння не ўкладваем свае ўласныя рублі, ні ад кага не залежачы?»…

Часам Іваноў перарывае сваё выкрыццё сусветнай змовы для інфармавання пра іншыя важныя тэмы. Ад яго ідэолагі даведаліся, што дзяўчыне нельга агаляць жывот — «народзяцца вырадкі». «Каб аднавіць свой біяпалярны энергаабмен пасля келіха віна, трэба інтэлектуальна працаваць тры гады», — тлумачыць Іваноў. «Японскія тэхналогіі спісаныя з савецкіх часопісаў для моладзі», — працягвае ён. «Якія, нафіг, у Еўропе каштоўнасці? Там пустэча», — задаецца рытарычным пытаннем лектар і падсумоўвае, што «з 1991 года краіна акупаваная ... Яны чакаюць, калі можна будзе нанесці вырашальны ўдар».

Іваноў папярэджвае, што прысутныя мужчыны павінны быць гатовыя надзець камуфляж і ўзяць у рукі аўтаматы. Не абыходзіцца без згадак пра сіянізм і «Святую Русь», сакральнае значэнне рускай мовы ў пабудове рускай цывілізацыі. «Вы павінны чытаць гэтыя лекцыі кожны дзень! На тых прадпрыемствах, якія вам даступны, ва ўсіх сацыяльных сетках. Жонка мужу хай чытае», — звяртаецца ён да ідэолагаў і абяцае падказаць «сайты з кніжкамі, дзе можна пачытаць больш падрабязна».

**Паўтарагадзінная прамова лектара насычаная псеўда-гістарычнымі байкамі, антынавуковымі сцвярджэннямі і месцамі мяжуе з экстрэмізмам.**

Асабліва іранічна выглядаюць высновы з вуснаў гэтага лектара: «Чалавек знешне застаецца такім жа, але інфармацыйны стан мяняецца. Наглядзеўся ўсялякіх карцінак, яму сказалі, што там — вораг, і ён пачынае верыць. Так мяняецца лінія паводзін цэлага народа. А калі гадуецца цэлае пакаленне ва ўмовах нянавісці, то яшчэ пакаленне трэба, каб гэта змяніць. І вы ўяўляеце, на якім узроўні цяпер праблемы ў нашых еўрапейскіх суседзяў? Колькі ім пакаленняў трэба?».

Пасля фінальнага слова і апошняй рэкламы становіцца ясна, чым натхняецца Іваноў — ён актыўна піярыць расійскі рух «КОБ» і беларускага “навукоўца” Нікіценку. Нікіценка фігураваў у нашым рэпартажы пра чарнасоценскую канферэнцыю ў Мінску. Але што такое “КОБ”, які раіць ідэолагам Іваноў? “КОБ” перакладаецца як «Канцэпцыя грамадскай бяспекі». Прыхільнікі гэтай тэорыі вераць у існаванне «глабальнага надыўдзейскага прэдыктара», створанага 3500 год таму 22 старажытнаегіпецкімі «жрацамі-іерафантамі», які кіруе, у тым ліку, і «Сусветным масонскім урадам».

Адметна, што шэраг кніг «КОБа» прызнаныя ў Расіі экстрэмісцкімі. На сайце, які Іваноў раіць пачытаць ідэолагам, можна знасці кнігі з назвамі “Яўрэйскі фашызм”, «Старажытнаегіпецкія карані сусветных бедаў», «Майстар і Маргарыта: гімн дэманізму».

Сваю датычнасць да руху «КОБ» Іваноў не хавае і ўсяляк згадвае пра сяброўства ў гэтай секце ў сваіх сацыяльных сетках.

*(скарочана)*

**Арцём Гарбацэвіч**
**“Наша Ніва”**

СПРАВЫ ЦАРКВЫ

# ЗА ЧТО ЦЕРКОВЬ ОТКАЗАЛАСЬ ОТПЕТЬ ГОДОВАЛОГО МАЛЬЧИКА

**31 декабря 2017 года в городе Запорожье 39-летний мужчина упал прямо на годовалого мальчика, которого папа провозил в коляске под окном многоэтажки. Самоубийца погиб, мальчик тоже... Этот случай остался бы рядовой трагедией, если бы не последовавшие события.**

Когда спустя несколько дней обезумевшие от горя родители повезли хоронить малыша, священник Евгений Молчанов, принадлежащий к УПЦ Московского патриархата, отказался отпеть младенца. «Ребенок — некрещеный, а церковь — незаконная», — объяснил ошеломленным родителям священнослужитель религии добра, прощения и любви.

Начальник священника — Лука, митрополит Запорожский и Мелитопольский, одобрил поведение своего подчиненного.

«Если бы он нарушил канон, он бы понес ответственность перед Богом», — заявил Лука.

А немного погодя, разъяснил: «Господь за такие поступки наказывает до седьмого колена».

Между тем далеко не все на Украине одобряют безмятежную уверенность митрополита Луки и его подчиненных в том, что Господу было угодно смачно харкнуть в душу родителям погибшего младенца и напомнить им — в этот самый страшный в их жизни момент, — что их дитятко отправится в ад, ибо не было крещено в единственном месте, которое обладает утвержденной самим Господом монополией на выписывание пропусков в рай.

По всей Украине началась акция: люди несут к церквям, подчиняющимся Московскому патриархату, детские игрушки со словами: «Дитя не виновато». Начались уже и стычки: в воскресенье люди в масках профессионально избили двух волонтеров, принесших такую куклу к запорожскому храму Петра и Февронии.

Если следовать логике митрополита Луки, эти громилы были, вероятно, ангелы Божии, специально посланные с небес, чтобы покарать безумцев, выступающих против Московского патриархата, а маски они надели, чтобы сияние их лиц не ослепило прохожих.

То, что случилось, на самом деле рано или поздно должно было случиться. «У меня двое детей, и один крещен в Московском патриархате, а другой — в Киевском. Когда я прихожу в храм и подаю записочку „за здравие“, меня всегда спрашивают, в каком приходе крещены дети. За того, что крещен в Киевском, служить отказываются», — объяснила мне киевская приятельница.

Московский патриархат на Украине постоянно напоминает urbi et orbi, что он единственный правообладатель на мирное учение Господа нашего Иисуса Христа, велевшего любить своих врагов и бдительно разоблачать еретиков.

В Почаевской лавре Тернопольской области прямо на дверях Лавры висит наглядный тому пример: картина под названием «Древо Христианской Церкви» с отсеченными и извергнутыми из нее еретическими ветвями, включая католиков, лютеран, адвентистов седьмого дня и, разумеется, преданный анафеме Киевский патриархат. Всем этим срамоимцам доступ на территорию Лавры мира, прощения и любви, видимо, запрещен.

К еретикам относятся, видимо, даже добровольцы АТО. Многие «московские» священники отказываются их отпевать, мотивируя это тем, что те участвовали в «братоубийственной войне». Это замечательное миролюбие выглядело бы куда более искренним, если бы в Донецкой Святогорской лавре еще в самом начале АТО не накрыли целую банду с оружием и если бы не под эгидой Московского патриархата перед самой «братоубийственной войной» по Украине путешествовали бы «Дары волхвов», начальником охраны при которых состоял никто иной, как Игорь Гиркин, он же Стрелков.

Кстати, никто не слышал, чтобы священники московского подчинения отказались отпевать участников «братоубийственной войны» с другой стороны. Использование церкви в политических целях старо, как само христианство. Как и компартия, церковь всегда колебалась вместе с линией властей предержащих.

С самого своего появления эта религия мира, добра и любви обладала исключительной способностью делиться на фракции, каждая из которых кляла другие, называя их еретиками. И далеко не всегда причиной ссоры с еретиками становились чисто теоретические разногласия. Порой наоборот — шкурные интересы и личные распри становились причиной теологических расхождений. Христианам было предписано любить врагов, но им же было предписано проклинать еретиков, и поэтому все внутренние враги мылом или катанием объявлялись еретиками.

Но одно дело в истории, другое дело — сейчас. И тут как бы не нарваться. Российское телевидение рассказало о мальчике, которого «укры» якобы распяли на доске объявлений. Что оказалось ложью. А церковь Московского патриархата отказалась отпеть годовалого мальчика. И это правда.

**Юлия Латынина**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.01.2018 у 16.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.